ББК 67.99(2)0
В 99

УДК 087.5:342.228

Гэтая кніжка апавядае дзецям у даступнай для іх форме пра гісторыю і значэнне беларускіх дзяржаўных сімвалаў.

Для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту.

В $\frac{4802010000-031}{М 301(03)-93}$ 67 — 93

ISBN 5-338-01080-1

Крыжыкі — знакі Сонца — на старажытных гліняных гаршках і каменных праселках.



Мы беларусы,
наша краіна — Беларусь.
Народаў і краін у свеце шмат.
У Швецыі жывуць шведы,
у Польшчы палякі,
у Расіі рускія.
Кожная краіна, кожны народ
адрозніваецца ад іншых:
моваю, звычаямі, вопраткай, выглядам.
Кожны народ і краіна
маюць свае знакі.
Гэта ГЕРБ і СЦЯГ.





Беларускія ваяры князя Усяслава адбіваюць напад ворагаў на рацэ Нямізе (3 сакавіка 1067 г.). Цяпер Няміга — вуліца ў Менску.

*Паводле малюнка з Радзівілаўскага летапісу.*

Дзень памяці продкаў Дзяды. Гэта святы для ўсіх беларусаў дзень. Спрадвеку павялося, што на Дзяды наведваюць магілы продкаў, памінаюць прашчураў ды іхнія добрыя справы.

Гербы і сцягі людзі прыдумалі даўно.
Рыцары ў цяжкіх жалезных латах
малявалі знакі свайго роду —
гербы — на шчытах.
А да вострай дзіды (кап'я)
прывязвалі кавалачкі тканіны,
якія і назвалі сцягамі.
Па гербах на шчытах
і па каляровых сцягах
ваяры маглі ў гарачым баі пазнаць,
дзе свае, а дзе чужынцы.
Лічылася, што войска, якое страціла сцяг,
пацярпела паразу і пакрылася ганьбай.
Таму сцяг бераглі як вока.



Каменны крыж князя Рагвалода — памежны знак Полацкай дзяржавы. 1171 г.

Крыж святой Ефрасінні Полацкай. Яго зрабіў для князёўны майстар Лазар Богша ў 1161 годзе.



Мы, беларусы, адвеку шануем герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг.

Герб Пагоня прыйшоў да нас з даўніх часоў. Срэбны рыцар на кані скача па горадзе і кліча: "Пагоня! Пагоня!" Гэты кліч азначаў, што на мірную беларускую зямлю напалі чужынцы, і ўсе мужчыны павінны стаць на яе абарону, разбіць ворага і гнаць аж да мяжы.

У правай руцэ рыцара меч, у левай — шчыт з залатым крыжам. Шасціканцовы крыж — гэта знак добрага і цёплага Сонца-Ярылы.





На пячатках беларускіх князёў Міндоўга, Жыгімонта (1398 г.) і мсціслаўскага князя Лугвена-Сямёна Альгердавіча (XIV — XV стст.) галоўнае месца займае Пагоня.



Беларусы будавалі прыгожыя кафляныя печы. Гэтую кафліну з Заслаўя ўпрыгожвае герб роду Глябовічаў з дзяржаўнаю Пагоняй.



Пагоня на манеце 1547 г., якая называецца «шастак», гэта значыць шэсць грошаў. Беларускія шастакі адбівалі са срэбра ў Вільні і ў Гародні.

Падобны да Ярылавага і залаты, з каштоўным каменнем крыж Ефрасінні Полацкай — галоўная святыня беларусаў, якую ад нас у вайну вывезлі ворагі. Сургучнаю пячаткай з Пагоняй некалі запячатвалі пасланні беларускія вялікія князі.

Быў час, калі самым небяспечным ворагам Беларусі стала нямецка-крыжацкае войска. Крыжакі захапілі суседнія краіны і хацелі заваяваць Беларусь.

Але беларускія рыцары пад знакам Пагоні ўшчэнт разбілі крыжакоў ля вёскі Грунвальд.

*Усё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!*

Так пісаў пра Літоўскую, гэта значыць старабеларускую, Пагоню вялікі наш паэт Максім Багдановіч.



Галоўны сцяг Беларуска-Літоўскай дзяржавы выносілі на вялікія святы. Так ён выглядаў у XV ст.

*Рэканструкцыя Яўгена Куліка.*

Грунвальдская бітва.

*Паводле гравюры з хронікі Марціна Бельскага.*

Наш сцяг
мае тыя ж колеры,
што і герб.
Так і трэба
па правілах.

Пад такімі сцягамі
нашыя продкі ваявалі
з туркамі ды Масквой
паўтысячы гадоў таму. Акрамя
трохпалосных, узнімалі і белыя
сцягі з чырвоным крыжам
святога Юр'я — апекуна
і заступніка Беларусі на нябёсах.



Сцяг Беларуска-Літоўска-Польскай дзяржавы ў XVI — XVII стст.



Крыж на белым палатне — рыцарскі сцяг святога Юр'я.



Баявы сцяг нашага войска ў XV ст.

*Паводле гравюры «Бітва пад Варнай» (1444 г.) з хронікі Марціна Бельскага.*

Гербы
Старабеларускай
дзяржавы
з гербоўнікаў
Папроцкага
і Эразма Коміна.

Першая
старонка
Статута
Вялікага
Княства—
збору законаў
старабеларускай
дзяржавы (1588 г.).
Выдатны вучоны
Леў Сапега
склаў
гэты Статут
так мудра,
што законы
з яго ўзялі
і многія
суседнія народы.
Статут
загадваў
ужываць
Пагоню
на пячатках
дзяржавы,
яе ваяводстваў
і паветаў.

Бітва
пад Оршай
8 верасня 1514 г.
Тады беларускае
войска разбіла
ўтрая большую
захопніцкую
армію Масквы.
Нашыя рыцары
трымаюць дзіды
з белымі сцяжкамі,
на кожным —
чырвоны крыж.

*Фрагмент*
*алейнай карціны,*
*якая захоўваецца*
*ў Нацыянальным музеі*
*Польшчы.*

Ёсць легенда пра тое, як узнік наш сцяг.
Быццам жыў у Беларусі
разумны і мужны князь,
якога шанаваў народ і баяліся ворагі.
Калі ж нападалі чужынцы —
смела ішоў у бой,
сам ваяваў ды іншымі камандаваў так,
што непрыяцель у жаху ўцякаў.
Ды неяк у сечы князя паранілі:
чужы рыцар мечам рассек яму лоб.
Верныя сябры вынеслі князя з поля бітвы
і перавязалі рану белым палатном.

Але беларускія рыцары,
застаўшыся без любімага князя,
пачалі адступаць. І тады
паранены князь падняўся,
зняў павязку з ілба і разгарнуў яе
над галавой, быццам сцяг.
Прыгожа напісаў пра гэта
паэт і спявак Сяржук Сокалаў-Воюш:

*І тады падняўся князь з зямлі,*
*Белыя павязкі зняў з чала.*
*Як штандар, яны ў руках былі,*
*Як праменні зыркага святла.*
*Кроў лягла чырвонай паласой*
*Цераз палатна сляпучы снег —*
*І схапіўся зноў за зброю вой,*
*І чужак заснуў у кургане.*

Разгорнутая белая павязка
з чырвонай паласой пасярэдзіне
стала знакам мужнасці, стала сцягам,
і рыцары зноў пайшлі ў бой — і перамаглі.

У 1863 г.
беларусы
разам з літоўцамі
і палякамі
паўсталі
за свабоду
Бацькаўшчыны.
Паўстанцы
мелі
бела-чырвоныя
харугвы,
часта
з вышытымі
беларускаю
Пагоняй
і польскім
Арлом.

*Рэканструкцыя
Пятра Драчова
і Яўгена Куліка.*

Пад гербам Пагоня змагаліся з расейскім войскам паўстанцы Кастуся Каліноўскага. А цяпер герб Пагоня ўпрыгожвае дзяржаўныя будынкі і залы ўрачыстасцяў. Ён відаць і на дакументах, на грашах, на паштовых марках Беларусі.

Паўстанцы Кастуся Каліноўскага ідуць у бой.

*Паводле літаграфіі Пятра Драчова.*





У розных краін —
розныя гербы і сцягі.
Па гербах відаць, якія знакі
мужнасці, справядлівасці, магутнасці
шануюць у гэтай краіне.
Герб Чэхіі — леў,
на гербе Швецыі тры залатыя кароны,
палякі маюць на гербе арла,
а на гербе далёкай Аўстраліі
бачым кенгуру і страўса.
Сцягі вывешваюць і падымаюць на святы.
Людзі шануюць сцягі сваіх краінаў.
Напрыклад, фіны штораніцы ўзнімаюць
над дамамі свой фінскі сцяг —
залаты крыж на блакітным палотнішчы.
Вельмі любяць свой
зорна-паласаты сцяг амерыканцы
і нават спяваюць пра яго песні.
Украінцы маюць блакітна-жоўты сцяг,
рускія — бела-сіне-чырвоны,
немцы — чорна-чырвона-жоўты.
Для нас, беларусаў, сярод усіх сцягоў
найпрыгажэйшы наш сцяг —
бел-чырвона-белы.
Ён прыкметны здалёк, ён такі
светлы і лёгкі, быццам ляціць у нябёсах.

25 лютага
1990 года
на галоўным пляцы
нашай сталіцы
сто тысяч чалавек
патрабавалі
свабоды Беларусі,
праўды,
справядлівасці.
Яны ўзнімалі
бел-чырвона-белыя
сцягі,
якія тады
былі забаронены.

*Фота*
*Віктара Жука*

# ДЗЯРЖАЎНЫ СЦЯГ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



Беларусы адвеку шанавалі
белы і чырвоны колеры.
Белы — колер чысціні, свабоды і веры,
колер спакойнай вады.
Можа, мы таму і называемся БЕЛАРУСЫ,
што любім гэты колер,
любім свабоду і чысціню.
Пра беларускі сцяг кажуць:
ён — быццам гронка каліны
на белым снезе.
А памятаеце, як вышыты нашыя
народныя кашулі, вытканы ручнікі?
Чырвонымі ніткамі па белым.
Чырвоны колер — гэта колер
смеласці ды адвагі, колер палкага агню.
Вось і атрымліваецца,
што беларускі сцяг як беларуская душа.
Беларус — спакойны, мудры,
верны слову чалавек,
але калі краіна ў бядзе,
ён бярэцца за зброю
і бароніць Бацькаўшчыну.
Беларусы ніколі не забываліся
пра свае сцяг і герб.
Даўно прамінулі часы жорсткіх бітваў.
І сёння нашыя знакі

# ДЗЯРЖАЎНЫ ГЕРБ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



нагадваюць нам пра тое,
што мы старажытны народ,
радуюць вока сваёй прыгажосцю.
Непрыяцелі хацелі заняволіць Беларусь,
хацелі, каб мы забыліся на ўсё сваё,
навязвалі нам выдуманыя гербы і сцягі.
Але людзі выходзілі на плошчы і вуліцы
з любімым сцягам і роднаю Пагоняй.
У верасні 1991 года
бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня
зноў сталі дзяржаўнымі
знакамі незалежнай Беларусі.
Шануйма ж іх!

Навукова-папулярнае выданне

Вячорка Валянцін Рыгоравіч

ПРА ГЕРБ І СЦЯГ

У кніжцы выкарыстаны слайд са збору А. А. Трусава



Рэдактар Г. І. Урбан
Мастацкі рэдактар І. Р. Славянін
Тэхнічны рэдактар І. П. Касцецкая
Камп'ютэрная вёрстка М. І. Лазука

Падп. да друку з арыгінала-макета 17.05.93. Фармат 60×84 1/8. Папера афс. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 1,86. Ум. фарб.-адб. 9,3. Ул.-выд. арк. 2,34. Тыраж 90 000 экз. Зак. 410.

Ордэна Дружбы народаў выдавецтва «Беларусь» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Ліцэнзія ЛВ № 2.
Мінская фабрыка каляровага друку. 220115, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.